# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы

Тэлефон: Старшыні ЦП № 4-08. Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 12 (30) | 20-га Верасьня 1929 году | № 12 (30)

## ЗЬМЕСТ



*Усім Акраддзяленьням Ссюзу Акруговым Упаўнаважаным БСТРЭСТУ, Раёным Інспэктарам, Рабачкомам і Кіраўнікам Савецкіх Гаспадарак.*

### Аб праверцы вынікаў сацыялістычнага спаборніцтва.

ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Матар'ялы атрымліваемыя з месц ЦП саюза і Трэстам аб сацыялістычным спаборніцтве, матар'ялы асобных абсьледваній у савецкіх гаспадарках сьведчыць аб досыць шырокім колькасным ахопе спаборніцтвам савецкіх гаспадарак, некаторым ажыўленьнем увагі праз спаборніцтва з боку рабочых пытаньнем вытворчасьці. Аднак у практыцы правядзеньня сацыялістычнага спаборніцтва маецца шэраг буйных недахопаў належачых да безадкладнага зьліквідаваньня. К асноўным недахопам трэба аднесьці:

1. Надзвычайнае зяцягваньне заключэньня ўмоў (2-3 і больш месяца) пасьля прыняцьця выкліку на спаборніцтва.

2. Недастатковы ўдзел шырокіх рабочых мас у распрацоўкі ўмоў, незаўсёды ўмова абгаварваецца на вытворчых нарадах і агульных сходах, апаратнае заключэньне ўмоў і слабая зацікаўленасьць мас, што вядзе к зрыву дагавораў па сацыялістычнаму спаборніцтву.

3. Умовы амаль зусім не прадугледжваюць барацьбы за зніжэньне сабекошту прадукцыі, слабае спаборніцтва за разьвіцьцё жывёлагадоўлі, садзейнічаньне ў калектывізацыі і вытворчаму каапэраваньню бядняцка - серадняцкага сялянства.

4. Часта ўмовы заключаюцца на некалькі год не паказваючы канчатковых тэрмінаў выкананьня асобных частак умовы.

5. Да гэтай пары амаль зусім не наладжана праверка вынікаў сацыялістычнага спаборніцтва, не праводзіцца самаправерка выкананьня дагавароў, вельмі слаба абгаварваецца на вытворчых нарадах і камісіях, слаба ўцягваецца маса ў абгаварэньне гэтых пытаньняў і наогул кепска інфармуецца маса аб ходзе і выніках сацыялістычнага спаборніцтва.

Гэтыя недахопы выкліканы, галоўным чынам, слабай працай большасьці рабочых камітэтаў, вытворчых камісій і

нарад, слабым ўдзелам адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу ў разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва.

Выходзячы з гэтых недахопаў магутнага значэньня сацыялістычнага спаборніцтва ў справе хутчэйшага разьвіцьця савецкіх гаспадарак, а таксама і неабходна падвесьці вынікі працы па сацыялістычнаму спаборніцтву. ЦП саюзу і Белсельтрэст прапануюць правесьці праверку вынікаў сацыялістычнага спаборніцтва з тым, каб выявіць увесь вопыт працы па сацыялістычнаму спаборніцтву і зьнішчыць маючыяся недахопы, для чаго неабходна правесьці наступнае:

1. а) Да 20 Кастрыч. рабачкомам і кіраўнікам саўгасаў падвесьці вынікі па сацыялістычнаму спаборніцтву ў саўгасах, па прылагаемай пры гэтым праграме.

б) Вынікі гэтыя павінны быць прапрацаваны на вытворчых нарадах і, агульных сходах саўгасаў, рабочых камісій, якія вытваралі абсьледваньне.

в) Вынікі абгаварэньня на агульных сходах і пратаколы па дакладу аб выніках, даючыя канкрэтную ацэнку вынікаў спаборніцтва па кожным мерапрыемству асобна, накіраваць праз Акраддзяленьне ЦП саюзу не пазьней 1-га Лістапада г. г.

г) Адначасова неабходна правесьці праверку выкананьня дагавароў ў падпісаўшым дагавор саўгасе, шляхам пасылкі дэлегацыі і вынікі таксама абгаварыць на агульных сходах абодвых саўгасаў, ў саўгасе абсьледваемым, а таксама пасылаемым дэлегацыю.

2. а) Акраддзяленьням саюзу да 25/IX правесьці абсьледваньне становішча і вынікаў сацыялістычнага спаборніцтва сіламі Акраддзяленьня 1 саўгас і 2 саўгасы даручыць абсьледваць двум райінструктарам.

б) Упаўнаважаным Трэсту правесьці абследваньне па аднаму саўгасу ў акрузе к таму-ж тэрміну.

Для абгляду саўгасы намячаюцца Акраддзьленьнем саюзу з упаўнаважаным Трэсту. Матар'ял абсьледваньня безадкладна накіраваць ЦП саюзу. Па заключэньню Акраддзяленьня і ўпаўнаважанага Трэсту, саўгасам з найлепшым дасягненьнем у сацыялістычным спаборніцтве прадставіць з дэталёвай характэрыстыкай дасягненьняў ў Трэст для прэміраваньня.

3. Падняць рашучыя крокі да ліквідацыі ў практыцы спаборніцтва паказаных вышэй недахопаў у прыватнасьці:

а) Рашуча ажывіць і палепшыць працу камісій і вытворчых нарад кіруючыся пастановай Прэзыдыуму ЦП ад 13/III-г. г. (гл. Бюл. № 4) у бліжэйшыя два тыдні аформіць умовамі вызначаныя задачы па сацыялістычным спаборніцтву, вызначаючы канкрэтныя мерапрыемствы, паказваючыя тэрмін дзейнічаньня ўмовы, парадак праверкі і г. д., каб у далейшым сыстэматычна правяраць ход спаборніцтва праз узаемнае абсьледваньне, сумесныя сходы, канфэрэнцыі ўдзельнікаў спаборніцтва, насьценгазэту і інш. формы.

б) Паставіць на абгаварэньне сходаў арганізацыю групавога і індывідуальнага спаборніцтва рабочых даннага саўгасу;

в) Асаблівую ўвагу зьвярнуць на разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва пытаньням лепшага правядзеньня асеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі, уборачнай кампаніі, рэальнага зьніжэньня сабекошту ўсей прадукцыі, безадкладнага разгортваньня падрыхтоўкі да вясеньняй с. г. кампаніі катэгарычнага палепшаньня жывёлагадоўлі, рэальнага садзейнічаньня калектывізацыі і вытворчаму каапэраваньню бядняцка-сэрадняцкага насельніцтва.

Савецкія гаспадаркі ня толькі павінны прыкладна наладзіць сацыялістычнае спаборніцтва паміж сабою, але і стаць сапраўднымі арганізатарамі сацыялістычнага спаборніцтва паміж калгасамі, каапэратыўнымі аб'яднаньнямі, пасёлкамі і бед.-серад. часткамі вёсак.

Старшыня Цэнтральнага Праўленьня Саюзу
Сельгаслесрабочых Беларусі **Вайтэнкаў.**

Нам. Дырэктара Белсельтрэсту **Аўчынікаў.**

# Праграма
## праверкі вынікаў сацыялістычнага спаборніцтва

1) З кім удзельнічае ў сацыялістычным спаборніцтве, з якім саўгасам ці другой арганізацыяй.

2) Калі ўступілі ў сацыялістычнае спаборніцтва,—месяц і чысло.

3) Калі падпісаны дагавор аб сацыялістычным спаборніцтве, і якія асноўныя задачы вызначаны у дагаворы і указаць канкрэтна, і на які тэрмін дагавор.

4) Вы выклікалі ці прынялі выклік — ад каго.

5) Ці абгаварваўся дагавор пры яго распрацоўцы перад падпісаньнем, кім абгаварваўся — рабачкомам, вытворчай нарадай, сходам.

6) Што зроблена ў выкананьне дагавору:

а) Наколькі паднялася вытворчасьць працы пасьля падпісаньня дагавору і зьнішчаны прагулы — (паказаць у %%).

б) Як павялічыліся нормы выработкі ў апрацоўцы глебы, пасевах, касьбе, уборцы. Наколькі паскораны работы па пасеву і уборцы.

в) Наколькі палепшылася выкарыстаньне рабочай сілы, машын арудзьзяў і наколькі зьнізіліся прастоі ад папсаваньня машын, арудзьзяў.

г) Наколькі працантаў паднялася ў гэтым годзе ўраджайнасьць па асобных культурах і якія крокі прыняты да падвышэньня ўраджайнасьці.

д) Наколькі палепшыліся адносіны рабочых да маёмасьці гаспадаркі і ў чым яны выражаюцца канкрэтна.

е) Як перайшлі на зьдзельшчыну, якую працу перавялі на зьдзельшчыну і якія вынікі ад зьдзельшчыны. Ці палепшылася якасьць працы і якія маюцца недахопы.

ж) Ці сваечасова праведзена вясеньняя уборка і абмалот. Ці ачысьцілі на 100 проц. насеньне і наколькі пашырана пасеўная плошча у вясеньнюю і васеньнюю сяўбу.

з) Наколькі зьнішчаны накладныя расходы і ў чым канкрэтна выразілася зьніжэньне накладных расходаў і наколькі палепшылася праца вытворчых камісій і вытворчых нарад. Як працуе вытворчая камісія і вытворчыя нарады. Праз які тэрмін зьбіраецца і як уцягнуты рабочыя ў працу вытворчых нарад.

к) Ці павялічылася колькасьць прапаноў вытворчых нарад, як выконваюцца пастановы вытворчых нарад, што ня выконваецца і якія па гэтаму прыняты крокі.

л) Ці павялічыліся ўдоі стада, на колькі і што для гэтага зроблена.

м) Як палепшылася праца Вашых тэхнічных прадпрыемстваў (заводы, млыны, лесапілкі і інш.), паказаць у чым канкрэтна гэта выразілася.

н) Якія прэміі былі выданы за лепшыя прапановы і лепшае выкананьне дагавору па сацыялістычным спаборніцтву.

о) Ці праводзіцца ў Вашым саўгасе спаборніцтва паміж аддзельнымі групамі рабочых, ці аддзельнымі рабочымі.

п) Што зроблена па падрыхтоўцы да выстаўкі.

7) Колькі разоў Вы выяжджалі і колькі разоў прыязджалі да Вас рабочыя дэлегацыі ці камісіі з мэтай праверкі ходу выкананьня дагавору сацыялістычнага спаборнінтва.

8) Колькі разоў ставілася на абгаварэньне пытаньне выкананьня дагавору, гдзе ставілася (на рабачкоме, вытворчай камісіі ці нарадзе). Як асьвятляецца гэта пытаньне ў насьценнай газэце і „Бел. Батраку“ і як інфармуюцца масы аб выкананьні дагавораў.

9) Якія ў Вас маюцца недахопы ў працы па сацыялістычнаму спаборніцтву, у чым яны выражаюцца і якія канкрэтна меры для зьнішчэньня недахопаў Вы думаеце прыняць.

10) Якія пункты дагавору Вамі яшчэ ня выкананы, чаму ня выкананы і што Вы думаеце зрабіць для іх выкананьня.

11) Што Вамі зроблена на вёсцы ў галіне сацыялістычнага спаборніцтва і якія ад гэтага вынікі.

12) Ці арганізаваны пры Вашым садзейнічаньні калгас ці вытворчае аб‘яднаньне і каапэрацыйнае.

13) Чым Вы канкрэтна абслугоўваеце агрыкультурнымі мерапрыемствамі вакольнае насельніцтва.

14) Ці шэфствуеце над вёскаю і што ў ёй зрабілі.

Калі маюцца акрамя гэтых яшчэ пытаньні, дык іх неабходна дадаць. Усё гэта неабходна прапрацаваць, як паказана вышэй, з тым, каб быў зусім канкрэтны матар'ял. Калі па якому пункту можа быць нічога ня зроблена, трэба адзначыць, што нічога ня зроблена і што мяркуецца зрабіць.

Кожны рабачком павінен адказаць толькі на тыя пункты, якія маюцца ў дагаворы, заключаным рабочым каляктывам саўгасу з другімі саўгасамі. калі ў вызначанай праграме маюцца пункты, якіх няма ў заключаным дагаворы, дык трэба адказаць, што такога пункту ў дагаворы няма.

Саўгасы, якія ня ўступілі ў сацыялістычнае спаборніцтва, адказваюць, што ў спаборніцтве ня ўдзельнічаюць.

*Усім акраддзяленьням саюзу, АКРЗА, раённым інструктарам, рабачкомам лясьніцтваў, лесаупарадкоўчым, земляупарадкоўчым і гідратэхнічным партыям.*

**Аб праверцы вынікаў сац. спаборніцтва у лясьніцтвах, лесаупарадкоўчых, землеупарадкоўчых і гідратэхнічных партыях.**

ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Перад рабочай клясай стаіць вялікая і надзвычайна адказная задача па ажыцьцяўленьню пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва. Рабочыя гораду і працоўныя масы вёскі ў межах выкананьня мерапрыемств пяцігадовага пляну, падняцьця вытворчасьці, палепшаньня якасьці прадукцыі, зьніжэньня сабекошту, пашырэньня пасеўнай плошчы і падняцьця ўраджайнасьці шырока ўступаюць усацыялістычн. спаборніцтва.

Гэта спаборніцтва шырока разгортваецца і сярод сельска-гаспадарчых і лясных рабочых, аб чым сьведчаць тыя матар'ялы; якія паступаюць у ЦП.

Аднак, ня гледзячы на гэта, сацыялістычнае спаборніцтва ў сучасным выглядзе мае шмат недахопаў. Яшчэ па цэлым шэрагу матар'ялаў заўважваецца, што выклікі робяць і дагаворы на спаборніцтва заключаюць вярхушкі саюзнай масы—рабачкомы. Шырокія працоўныя масы яшчэ зусім слаба ўцягнуты ў справу сацыялістычнага спаборніцтва. Часта наглядаюцца фармальныя адносіны да спаборніцтва і абмяжоўваюцца выклікам на спаборніцтва і не заўсёды заключаюцца дагаворы, якія часта ня маюць дакладна канкрэтных задач, якія павінны ставіць перад сабой уступаючыя ў спаборніцтва рабочыя калектывы. Слаба разгортваецца праца па сацыялістычным спаборніцтву ў лясьніцтвах, на лесанарыхтоўках, сярод лесаўпарадкавацеляў, земляўпарадкавацеляў, мэліаратараў і інш. Да гэтага часу амаль зусім не наладжана праверка вынік.сац.спаборніцтва

Усе пералічаныя недахопы ў справе сацыялістычнага спаборніцтва тлумачацца слабай працай рабачкомаў, вытворчых нарад і гаспадарчых органаў а таксама слабым удзелам спэцыялістых.

Зараз канчаецца гаспадарчы год і набліжаецца тэрмін сканчэньня палявых работ па лесаўпарадкаваньню, земляўпарадкаваньню і мэліарацыі, таму неабходна прыняць усе меры. каб зьнішчыць тыя недахопы, якія наглядаліся да гэтага часу і падлічыць вынікі ўдзелу ў сацыялістычным спаборніцтве, каб з пачатку новага апэрацыйнага году прыступіць да перазаключэньня дагавораў на спаборніцтва, з цьвёрда вызначанымі мерапрыемствамі і парадкам праверкі ходу спаборніцтва, цалкам скарыстоўваючы вопыт бягучага году.

Выходзячы з гэтага ЦП саюзу і НКЗ прапануюць правесьці праверку вынікаў сацыялістычнага спаборніцтва да 20 кастрычніка г. г. па далучаемай форме.

Зараз-жа па атрыманьні гэтага лісту выдзеліце дэлегацыі—камісіі для абсьледваньня і падвядзеньня вынікаў спаборніцтва, як у сваёй установе ці калектыве, так і тых устаноў, якія падпісалі з вамі дагавор.

Вынікі павінны быць абгавораны на агульным сходзе рабочых калектываў і пратакол з агульнай ацэнкай як сваіх дасягненьняў, таксама і дасягненьняў спаборнічай установы рабочага калектыву, разам з вынікамі даслаць праз Акраддзяленьне ў ЦП саюзу.

Старшыня ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых Бел. **Вайтэнкаў.**
Народны Камісар Земляробства **Рачыцкі.**

## Практычныя ўказаньні.

### Мясцовым прафэсыйным арганізацыям па арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва.

*I. Хто з кім можа ўступаць у сацыялістычнае спаборніцтва:*

Саўгасы.

а) Рабочы каляктыў аднаго саўгасу можа ўступаць у сацыялістычнае спаборніцтва з рабочым каляктывам другога саўгасу поўнасьцю, акрамя таго па групах.

б) Група рабочых аднаго саўгасу можа ўступаць у сацыялістычнае спаборніцтва з групай рабачых другога саўгасу. Напрыклад - палявыя рабочыя аднаго саўгасу з палявымі рабочымі другога саўгасу ці рабочыя скотнага двара аднаго саўгасу з рабочымі - ж скотнага двара другога саўгасу па шэрагу аналёгічных мерапрыемстваў.

в) Унутры самаго саўгасу можна арганізаваць спаборніцтва паміж асобнымі групамі рабочых ці асобнымі рабочымі. Напрыклад-група рабочых саўг. ў 5 чал., уступае ў спаборніцтва з другой групай рабочых таго-ж саўгасу ў 5 ці іншай колькасьцю рабочых, напрыкладна лепшае і хутчэйшае правядзеньне уборкі ўраджаю, успашкі глебы, вывозкі гною і г. д. і потым вылічваюць якая будзе норма выпрацоўкі на 1 чал. у дзень. А таксама паміж рабочымі другіх катэгорый: на скотным двары, на агародзе, у млыне, на заводзе і г. д.

г) Рабочыя каляктывы саўгасаў могуць уступаць у сацыялістычнае спаборніцтва з калгасамі, па шэрагу мерапрыемств, прадугледжваемых дагаворамі.

д) Рабочыя каляктывы саўгасаў могуць уступаць у сацыялістычнае спаборніцтва з каапэрацыйнымі аб'яднаньнямі на вёсцы.

е) У спаборніцтва паміж сабой уступаюць калгасы з калгасамі, калгасы з бедняцка-серадняцкай часткай вёскі.

У арганізацыі спаборніцтва на вёсцы рабачкомы сельрабачкомы і рабочыя каляктывы павінны быць ініцыятарамі па ўцягненьню насельніцтва ў сацыялістычнае спаборніцтва і дапамагчы, як у распрацоўцы дагавару, яго абгаварэньні і заключэньні і ў справе арганізацыі праверкі і выкананьня заключаных дагавораў. Сельрабачкомы павінны практычна узяць на себя ініцыятыву у арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва на вёсцы.

ж) Не рэкамендуецца выклікаць на спаборніцтва іншых галін вытворчасьці. Калі ўступае ў спаборніцтва саўгас ці калгас, дык патрэбна ўступаць з прадпрыемствам сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

Лясьніцтвы.

а) Рабочы каляктыў аднаго лясьніцтва можа ўступаць у сацыялістычнае спаборніцтва з каляктывам другога лясьніцтва.

б) Каляктыў аднаго аб'езда з каляктывам другога аб'езда.

в) Магчыма арганізаваць спаборніцтва паміж паасобнымі лясьнікамі ці аб'ездчыкамі на лепшую пастаноўку аховы лесу ад самаўласных парубак, ад патравы лесу жывёлай, ад пажараў, на лепшае выкананьне лесакультурных прац і інш.

г) Рабочыя каляктывы лясьніцтв могуць уступаць у спаборніцтва таксама з бліжэйшымі саўгасамі, калгасамі, з пасёлкамі і вёскамі, аднак лепш будзе, калі ў спаборніцтва будуць уступаць аднолькавыя групы ці каляктывы з аднолькавымі задачамі, аднолькава зразумелымі для абодвых груп, ці каляктываў.

Спэцыялістыя.

а) Каляктывы лесаўпарадкаваўчых, земляўпарадкаваўчых, гідратэхнічных і мэліярацыйных партый могуць уступаць у спаборніцтва з каляктывамі аднародных работ.

б) Паасобныя спэцыялістыя вытворцы аднаго каляктыву могуць уступаць у спаборніцтва паміж паасобнымі спэцыялістымі свайго каляктыву ці другога суседняга з аднароднымі задачамі.

в) Спэцыялістыя лясьніцтв, кіраўнікі саўгасаў удзельнічаюць у спаборніцтве разам з рабочымі свайго каляктыву.

г) Аграпрацаўнікі раённай сеткі уступаюць у спаборніцтва з паасобнымі аграпрацаўнікамі ці спэцыялістымі свайго, альбо суседняга раёну.

*2. Парадак выкліку і заключэньня дагавораў па сацыялістычнаму спаборніцтву.*

а) Перад тым, як выклікаць каго небудзь на сацыялістычнае спаборніцтва, неабходна ў сябе абгаварыць тыя мерапрыемства, па якіх трэба выклікаць. Спачатку мерапрыемствы абгаварваюцца і выпрацоўваюцца вытворчай камісіяй, а вытворчай нарадзе і канчаткова зацьверджаюцца на агульным сходзе.

б) Перад тым, як падпісаць дагавор, неабходна ўсе прыймаемыя па дагавору абавязкі дэталёва абгаварыць на вытворчых нарадах і агульных сходах, каб прынятыя абавязкі, абавязкова выканаць. Дзеля падпісаньня дагавору выдзяляецца на агульным сходзе дэлегацыя, якая выяджае ад імя рабочага калектыву падпісаць дагавор з другім калектывам, ці калгасам.

в) Пасьля падпісаньня дагавору трэба яшчэ раз азнаёміць ўсіх рабочых, калгасьнікаў ці сялян з тымі абавязкамі, якія ўзялі на сябе абодвы бакі падпісаўшыя дагавор па сацыялістычнаму спаборніцтву.

г) У распрацоўку і падпісаньне дагавору неабходна ўцягваць працуючых спэцыялістых і адміністрацыю прадпрыемств.

*3. Як трэба праводзіць праверку і самаправерку выкананьня дагавораў.*

а) Самаправерку выкананьня дагавору ў саўгасе павінны рабіць вытворчыя кам. і нарады, якія павінны ва ўсей сваёй працы сачыць як ідзе выкананьне дагавору, ці своечасова ўсё выконваецца, знаёміць ўсе рабочыя масы з ходам выкананьня дагавору, калі маюцца якія кольвек недарэчнасьці, неабходна іх зьнішчаць.

б) У калгасах і вёсках выдзяляюцца спэцыяльныя камісіі дзеля праверкі ходу выкананьня дагавароў з удзелам членаў с/саветаў.

в) Дзеля азнаямленьня і праверкі ходу выкананьня дагавору з заключанай стараной, неабходна пасылаць адзін да другога дэлегацыі, якія па азнаямленьню з ходам выкананьня дагавораў, абгаварваюць гэтае на агульных сходах тых арганізацый, куды выяджаюць і інфармуюць агульны сход аб ходзе выкананьня дагавору ў сябе. Па прыездзе да сябе дэлегацыя павінна зрабіць даклад на вытварчай нарадзе ці агульным сходзе аб сваёй паездцы і аб тэй працы якая праводзіцца па выкананьню дагавору з другой стараной, агульны сход павінен вынесьці па гэтаму сваё рашэньня і паслаць яго другой старане.

Рабачкомы на месцох павінны кіраваць усёй гэтай працай.

г) Па сканчэньні дагавору, абодве стараны выбіраюць камісію дзеля падвядзеньня вынікаў дагавору. Саўгасы выдзяляюць у камісію прадстаўнікоў рабочых, ад рабочых камітэтаў, вытворчых камісій і прадстаўніка адміністрацыі, калгасы членаў калгасаў, вёскай сялян з уключэньнем членаў с/савету. Калі спаборнічаюць вёска з вёскай, дык вынікі падводзя с/савет.

*4. На які тэрмін трэба заключаць ўмовы.*

а) Як правіла, умовы трэба заключаць на канкрэтныя мерапрыемствы і на тую працу, якая павінна быць у бліжэйшы час. Пагэтаму заключэньне ўмоў трэба рабіць, ня больш, як на год, а на некаторыя мерапрыемства і менш году, напрыклад, калі ўмова заключаецца па пытаньнях вясновай пасеўкампаніі, дык яе можна заключыць на тэрмін правядзеньня пасеўкампаніі, пасьля чаго магчыма ўжо падвесьці вынікі выкананьня дагавору. Ці дагавор на уборку ўраджаю, засеў, арганізацыю калгасу, на правядзеньне хлебазагатовак і г. д., на такія мерапрыемствы тэрмін павінен ўстанаўляцца да таго часу, калі канчаецца тэрмін працы, дагавары павіны перазаключацца.

б) Праца, якая патрабуе вучоту на працягу цэлага году, як напрыклад, надвышэньне ўраджайнасьці, павялічэньне ўдою стада і г. д., трэба заключаць на год, у працягу году трэба правяраць як і якія мерапрыемствы прымаюцца дзеля вызначанага мерапрыемства, напрыклад-дзеля павялічэньня ўдойлівасьці стада, лепшы дагляд, своечасовае і акуратнае кармленьне, своечасовая акуратная дойка, утрыманьне у чыстаце скаціны і г. д.

в) Кожны рабочы калектыў саўгасу, калгас ці вёска могуць адначасова мець

па два дагавары. Напрыклад адзін дагавор па сацыялістычным спаборніцтву заключаны на працяглае мерапрыемства, як павілічэньне ўдоеў на доўгі тэрмін. У працэсе працы патрабуецца заключэньне дагавору на правядзеньне аддзельных работ, як вясновай пасеўкампаніі, уборка сенакосу і г. д. так і кароткатэрміновы дагавор павінен быць заключаны.

г) Пажадана, каб дагаварваючыяся староны знаходзіліся ў недалёкай адлегласьці адна ад другой, каб была магчымасьць часьцей пасылаць дэлегацыі адна да другой на праверку выкананьня дагавору.

д) Пры выкліку на сацыялістычнае спаборніцтва ня трэба выклікаць некалькі арганізацый за раз, а якую-небудзь адну, каб на справе магчыма было практычна дасягнуць адпаведных вынікаў. Калі выклікаць многа арганізацый і заключаць з імі ўмовы не магчыма, дык гэтае застанецца толькі дэкларацыяй, а практычна нічога ня будзе зроблена.

Напрыклад, калі выклікае саўгас, дык ён павінен выклікаць толькі адзін суседні саўгас ці калгас, а ня ўсю акругу ці некалькі саўгасаў, з гэтага карысьці ня будзе.

е) За лепшае выкананьне дагавору па сацыялістычным спаборніцтву цэлыя рабочыя калектывы, аддзельныя групы рабочых ці аддзельныя рабочыя і спэцыялістыя атрымліваюць прэміі з мясцовых сродкаў і са сродкаў вышэйшых устаноў (БСТ і др.), дзе на гэтую мэту спэцыяльна прадугледжаны сродкі.

*5. Якія ў асноўным неабходна ўключаць пытаньні ў дагаворы па сацыялістычным спаборніцтву (як прыклад).*

Саўгасы:

а) Падняцьце вытворчасьці працы.

б) Падняцьце працдысцыпліны, зьнішчэньне прагулаў, палепшаньне адносін да маёмасьці гаспадаркі.

в) Павялічэньне норм выпрацоўкі і якаснае палепшаньне працы.

г) Зьніжэньне сабекошту прадукцыі, зьніжэньне накладных выдаткаў і палепшаньне якасьці прадукцыі.

д) Падвышэньне ўраджайнасьці палёў і правядзеньне аграмінімуму.

е) Пашырэньне плошчы пасеву. Павялічэньне пасеву інтэнсыўных і кармавых культур, 100 проц. увядзеньне занятых параў.

ж) Павялічэньне прадукцыйнасьці жывёлы. Павялічэньне жывёлы, палепшаньне яе якасьці і палепшаньне дагляду за ёй.

з) За хутчэйшы і лепшы пераход на зьдзельшчыну.

і) За сваечасовы пасеў і ўборку ўраджаеў.

к) За лепшую працу вытворчых камісій і нарад і за лепшыя прапановы па палепшаньні становішча гаспадаркі.

л) За лепшую падрыхтоўку да Усебеларускай Выстаўкі.

м) За лепшую працу тэхнічных прадпрыемств.

н) За лепшае садзейнічаньне калектывізацыі і каапэраваньню вёскі. За лепшую дапамогу бязконным беднякам, гаспадаркам і сем'ям чырвонаармейцаў.

о) За лепшае агрыкультурнае абслугоўваньне бедняцка-серадняцкіх пластоў вёскі і за лепшае шэфства над калгасам ці вёскай.

І шэраг іншых пытаньняў, зьвязаных з вытворчасьцю гаспадаркі, выходзячы з мясцовых умоў.

Лясьніцтвы.

а) Зьніжэньне самаўласных парубак.

б) Сваечасовае выкананьне ня менш, як на 100 проц. лесакультурных работ, прадугледжаных плянам.

в) Сваечасовая падрыхтоўка лесу да водпуску (адвод лесасек, перасадкі і ацэнка).

г) Выкананьне на 100 проц. мер дагляду за лесам, прадугледжаных гаспадарчым плянам.

д) Арганізацыя лепшай пастаноўкі здавальненьня насельніцтва лесам.

е) Павялічэньня пры лесараспрацоўках выхаду будоўнай драўніны і зьніжэньне сабекошту.

ж) На лепшую і сваечасовую абчыстку лесасек.

з) Павялічэньне прыбытковасьці лясьніцтва.

і) На лепшае правядзеньне будаўнічых работ і зьніжэньне каштоўнасьці.

к) На лепшую пастаноўку культмасавай працы ў лясьніцтвах.

л) На падняцьцё працоўнай дысцыпліны, зьнішчэньне прагулаў і лепшыя адносіны да лясной гаспадаркі.

м) За лепшую працу вытворчых нарад.

н) За лепшую падрыхтоўку да Ўсебеларускай Выстаўкі.

о) На хутчэйшую радыёфікацыю лясьніцтв і лясной варты і шэраг іншых пытаньняў.

Спэцыялістыя.

(Агрaномы, зямляўпарадкаваце́лі, лесаўпарадкавацелі і мэліяратары).

а) Падняцьце вытворчасьці (выкананьне нормы і лепшая якасьць працы).

б) Зьніжэньне каштоўнасьці работ.

в) Падняцьце працоўнай дысцыпліны.

г) Ні воднаго хутара—за калектывізацыю вёсак.

д) За сваечасовае выкананьне заданьняў.

е) За лепшую арганізацыю новых буйных калгасаў і ўзбуйненьне існуючых.

ж) За лепшае правядзеньне мяжовых работ, складаньне плянаў.

з) За лепшае складаньне пляну лясной гаспадаркі.

і) За большую і лепшую арганізацыю меліарацыйных і тарфяных таварыстваў.

к) За большае і лепшае правядзеньне вытворчага каапэраваньня насельніцтва і арганізацыю вытворчых аб'яднаньняў.

л) За лепшую дапамогу бедняцка-серадняцкаму сялянству і правядзеньне агрыкультурных мерапрыемстваў.

м) За большае правядзеньне мерапрыемстваў па ліквідацыі сярод сялянства агранамічнай няпісьменнасьці (кароткатэрміновыя курсы, гурткі, гутаркі і інш.).

н) За лепшае культмасавае абслугоўваньне вёсак.

І шэраг іншых пытаньняў, зьвязаных з вытворчай працай спэцыялістых, выходзячы з мясцовых умоў.

## Праэкт дагавору паміж калгасам і бедняцка-серадняцкай часткай вёскі.

Мы, члены, калгасу . . . . . . . . і сяляне вёскі . . . . . . . . . . . абгаварыўшы на сваіх агульных сходах аб мерах подняцьця ўраджайнасьці і вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы, заключылі паміж сабой дагавор на спаборніцтва па правядзеньні наступных мерапрыёмстваў для падняцьця ўраджайнасьці і павялічэньня вытворчасьці нашых гаспадарак.

Мы, члены калгасу . . . . . з аднаго боку; і сяляне вёскі . . . . . , з другога боку, абавязуемся зрабіць наступнае:

1. Правесьці цалкам агрexamінімум у 1929-30 г. і выканаць яго ва ўсе наступныя гады, а менавіта: а) ачышчаць і сартыраваць на ўсе 100 проц. ўсе высяваемае насеньне, прычым калгас абавязуецца прадаставіць зёрнаачышчальныя машыны для ачысткі і сарціроўкі насеньня сялян вёскі . . . . . . . на ўмовах . . . . . . . . . . . . .

б) Зьнішчыць усе межнікі і запахаць іх пад пасеў у 1929-30 г.

в) калгас абавязуецца ў 1930 г. мець ня менш 50 проц. занятога пара, а вёска ня меньш 30 проц. занятога пара, астатнія—раньнія пары. Зусім зьнішчыць позьні пар.

г) Калгас абавязуецца ўтварыць запашку на зяб ня менш 75 проц. у 1929 г. і 100 проц. у 1930 г., а вёска . . . . . ня менш 75 проц. усей плошчы ў 29 г. і ня менш 75 проц. у 1930 г., аслабаняючайся з пад азімых і яравых пасеваў.

д) Калгас абавязуецца ў 1929-30 г. на ўсе 100 проц утварыць радавы пасеў, вёска з свайго боку абавязуецца ня менш як на 15 проц. утварыць азімы пасеў у 1929 г. і на 20 проц яровы і азімы ў 1930 г.

е) Цалкам зьнішчыць усялякую пасьбу жывёлы на азімых пасевах.

ж) Правесьці пратручваньне насеньня пшаніцы, ячменя, аўса калі яны зараўлены сажай.

з) Вясьці нясупынную барацьбу са шкоднікамі і сарнінай на палях і гародах.

і) Арганізаваць збор попелу, які атрымоўваецца ва усіх топках, захаваць і скарыстаць яго належным чынам.

к) арганізаваць правільнае кармленьне жывёлы па нормах па паказаньні аг-

раномa і на зіму ўтварыць ацяпленьне хлявоў.

2. Калгас абавязуецца перайсьці на шматпольле не пазьней, як у 29-1930 г., вёска—не пазьней 1931 г. і зьнішчыць усялякую вузкапалосіцу.

3. На працягу 1929 г. і 1930 г. як калгас, так і вёска абавязваюцца поўнасьцю скарыстаць пад пасевы ўсю плошчу, якая не дае ніякай карысьці, замежы, някультурныя землі, паросшыя кустарнікам ці часткова забалочаную.

4. Калгас абавязуецца ў 1930 годзе павялічыць ураджайнасьць ня менш, як на 16 проц., а вёска ня менш, як на 8 проц.

5. Ніводнага пуду лішку зярна не прадаваць паміма каапэрацыі. Усе праз каапэрацыю і дзярж. органы.

6. Калгас абавязуецца вырасьціць для каапэрацыі і закантрактаваць пасеваў на плошчы . . . . . гэктараў. Вёска з свайго боку абавязуецца правесьці агульную запашку і пасеў на плошчы . . . . . гэктараў і закантрактаваць у каапэрацыю пасевы на . . . . . гэктараў.

7. Калгас абавязуецца, па магчымасьці, здаволіць машынамі і прыладамі бязінвэнтарныя гаспадаркі беднякоў і сямей чырвонаармейцаў, а таксама і адпаведнымі машынамі, як радавымі сеялкамі і інш. нуждаючыхся селян. Адначасова вёска абавязуецца ўтварыць калякты ўную закупку машын для сумеснага карыстаньня і арганізаваць машынае таварыства.

8. Калгас абавязуецца прыняць у члены калгасу ў 1930 годзе . . . . . двароў, вёска з свайго боку абавязуецца падрыхтаваць і вырашыць пытаньне аб пераходзе ў калякты ў не пазьней, як у 1930 годзе. Адначасова вёска абавязуецца к 1 студз. 1930 г. усім уступіць у пайшчыкі с.-г. каапэрацыі.

9. Калгас абавязуецца прынімаць у вёсцы ўсю малочную прадукцыю, арганізаваць гаспадаркі ў малочнае таварыства з тым каб ўся малочная прадукцыя здавалася каапэрацыі. Адначасова калгас бярэ на сябе абавязкі забясьпечваць канцэтраваным нормам гаспадаркі, якія здаюць малако, і беднату, ў якой няма лішкаў малака.

10. Калгас абавязуецца атрымаць добрага вытворніка і забясьпечыць злучку кароў сялян вёскі . . . . . за плату . . . . . Адначасова калгас абавязуецца ўсіх лішніх цялят ад сваіх лепшых кароў прадаставіць на племя сялянам.

11. Калгас абавязуецца здаць поўнасьцю с.-г. падатак да 1-га лістападу 29 г., а вёска да 1-га студзеня 1930 г.

12. Калгас абавязуецца ўступіць усім укладчыкамі ў касу ашчаднасьці, вёска абавязуецца ўцягнуць ня менш як 50% гаспадарак у касы ашчаднасьці да . . . . . 1930 г.

13. Калгас абавязуецца вырасьціць насеньне лубіну . . . . гэктараў, вікі . . . . гэкт., сэрадэлы . . . . гэкт. . . . . . . , а веска з свайго боку лубіну . . . . гэкт.. вікі . . . гэкт. . . . . . і інш.

14. Калгас абавязуецца ў 1930 годзе павялічыць буйнай рагатай жывёлы ня менш, як на 12 проц., а сьвіней на 15%, вёска абавязуецца павялічыць у 1930 г. буйнай рагатай жывёлы ня менш, як на 10 проц., а сьвіней на 12 проц.

15. К 1-га студзеня 1930 г. калгас абавязуецца мець на „Беларускую Вёску“ падпіску на кожную сям'ю, а вёска—на кожны двор.

16. За летні тэрмін калгас сумесна з вёскай арганізуюць ня менш двух экскурсій у лепшы саўгас і ў свой калгас, ці вопытную станцыю.

17. Калгас і вёска абавязуюцца абслужыць як інвэнтаром, так і цягавай сілай усе бязканёвыя бядняцкія—чырвонаармейскія гаспадаркі вёскі.

18. Калгас абавязуецца засеяць у карысьць індустрыялізацыі краіны . . . гэктараў пасеваў.

Мы, сяляне вёскі . . . . . . , абяцаем засеяць у карысьць індустрыялізацыі . . . гэктараў пасеваў, сваяча-

сова гэтыя пасевы убраць і здаць на індустрыялізацыю краіны не пазьней 1-га кастрычніка г. г.

Усе вышэйпаказаныя мерапрыемствы мы абавязуемся выканаць сваечасова. Для сыстэматычнай праверкі выкананьня выдзяліць камітэт з прадстаўнікоў калгасу . . . . . . . чал, з прадстаўнікоў вёскі . . . . чал. з прадстаўнікоў с-с. і рабачкомаў саўгасу . . . . якому даручаецца сачыць за выкананьнем гэтага дагавору і інфармаваць агульны сход калгасу і вёскі не радзей, як у два месяцы раз.

**Подпісы.**

## Праэкт дагавору паміж беднядка-сераднядкай часткай вёсак.

Мы, сяляне вёскі . . . , з аднаго боку, і сяляне вёскі . . . . . . . з другога боку, абавязуемся зрабіць наступнае:

Правесьці ў сваіх вёсках у 1930 годзе аграмінімум і бязупынна праводзіць яго штогодна, а менавіта:

а) ачышчаць і адсартыраваць на ўсе 100 проц. усе насеньне, якое высяваецца ў поле.

б) зьнішчыць у 1929-30 годзе ўсе межнікі, на якіх расьце сарніна, запахаць іх пад пасеў.

в) завесьці ў 1930 годзе ў 30-ці проц. гаспадарак занятыя пары і ў астатніх 70 проц. гаспадарак раньнія пары, зусім зьнішчыць позьні пар.

г) абавязуемся ў 1929 годзе запахаць на зяб ня менш 50 проц. усей плошчы вёскі і ў 1930 г. 75 проц. плошчы ў вёскі, якая ідзе пад яравыя палі ці па пар.

д) зьнішчыць ўселякую пасьбу жывёлы па азімых пасевах.

е) утварыць пасеў азімых у 1929 г. на 15 проц. радавым насеньнем, а вясеньні пасеў 1930 г. - на 20 проц. радавым насеньнем.

ж) правясьці пратручваньне насеньня пшаніцы, аўса, ячменя, калі яны заражаны сечкай.

з) весьці нясупынную барацьбу са шкоднікамі і сарнінай па палёх і гародах.

і) арганізаваць збор попелу ва ўсіх дварах на працягу ўсяго году і скарыстаць яго, як належыць.

к) арганізаваць кармленьне жывелы па кармах па паказаньні агранома.

л) утварыць ацяпленьне хлявоў для жывёлы.

2. Абавязуемся перайсьці на шматпольле з 1930-31 году, зьнішчыць уселякую вузкапалосіцу.

3. На працягу 1929 і 30 г. распрацаваць пад пасеў усю плошчу, якая не дае ніякай карысьці, бросавыя залежы, някультурныя землі, паросшую кустарнікам ці часткай забалочаную.

4. Павялічыць удаджайнасьць у 1930 годзе на 8 проц.

5 Ніводнага пуда зьлішку зерна ня здаваць на прыватны рынак, усе праз каапэрацыю.

6. Абавязуемся перавесьці агульную запашку і засеў зямельнай плошчы . . . . гэк., закантрактаваць для каапэрацыі . . гэкт. пасеваў

7. Правесьці калектыўную закупку машын, арганізаваць таварыства па сумеснай апрацоўцы глебы.

8. Падрыхтаваць пытаньне к пераходу ў калгас на працягу 1930 г. і правесьці адпаведныя арганізацыйныя мерапрыемствы з тым, каб у 1931 г. усім аб'яднацца ў калгас.

9. К 1-му студзеня 1930 г. кожны двор павінен быць каапэраваны ў с.-г. каапэрацыі.

10. Арганізаваць калектыўную здачу малочнай прадукцыі малочнаму т-ву ці каапэрацыі. Стаць усім, здаючым малочныя прадукты, пайшчыкамі малочнага таварыства, а калі яго няма, дык арганізаваць гэткае.

11. Здаць поўнасьцю сельска-гаспадарчы падатак да 1-га студзеня 1930 г.

12. Уцягнуць укладчыкамі ў касы ашчаднасьці ня менш 50 проц. усіх гаспадарак вёсцы.

13. Вырасьціць насеньня лубіну . . . . . . . гэкт., сэрадэлы . . . . гэкт. вікі . . . . . гэкт., канюшыны . . . . . гэкт.

14. Павялічыць у 1930 г., у параўнаньні з 1929 г. рагатай жывёлы на 10 проц.

15 К 1-му студзеня 1930 году арганізаваць падпіску на „Беларускую Вёску“ на кожны двор.

16. За летні тэрмін арганізаваць ня менш двух экскурсій сялян у бліжэйшы саўгас, калгас ці вопытную станцыю.

17. Апрацаваць поўнасьцю паля бязканёвых беднякоў, удоў і сямей чырвонаармейцаў.

18 Мы, сяляне вёскі . . . . абавязуемся закласьці ў карысьць індустрыялізацыі краіны . . . . гэкт. пасеваў, і сяляне вёскі . . . . . гэктараў. Увесь ураджай абяцаем сваячасова зьняць і здаць у карысьць індустрыялізацыі краіны ня пазьней 1-га кастрычніка.

ПОДПІСЫ:

## Вынікі

### праверкі сацыялістычнага спаборніцтва.

1. Назва ўстановы . . . . . . .
2. Колькасьць рабочых, спэцыялістых, служачых . . . . . . . . . .
3. З кім уступлена ў спаборніцтва .
4. Калі (месяц і чысло) . . . . .
5. Калі падпісалі дагавор і на які тэрмін . . . . . . . . . . . . . .
6. Якія канкрэтныя мерапрыемствы пастаўлены да выкананьня вашай установай . . . . . . . . . . . . . ,
7. Ці абгаварваўся дагавор перад падпісаньнем у рабачкоме, на вытворчай нарадзе, на агульным сходзе . . .
8. Ці праводзіцца спаборніцтва паміж паасобнымі рабочымі і спэцыялістымі ці групамі . . . . . . . . .
9. Колькі разоў выяжджалі камісіі для праверкі сваіх дасягненьняў і таксама дасягненьняў спаборнічнай стараны.
10. Якія канкрэтна мерапрыемствы па дагавору выкананы у лічбах і % .
11. Якія мерапрыемствы ня выкананы і чаму . . . . . . . . . . .
12. Што рабілася да сваечасовага выкананьня пунктаў дагавору . . . .
13. Які ўплыў мела спаборніцтва на вакольнае насельніцтва . . . . . .
14. Як адбілася спаборніцтва па падняцьці працоўнай дысцыпліны, ліквідацыі прагулаў, чоткасьць і якасьць працы . . . . . . . . . . . . . .
15. Наколькі палепшылася ў лясьніцтве ахова лесу і наколькі %% зьменшаны самаўласныя парубкі, як выяўленыя, так невядомыя . . . . . . .
16. Колькі і на якой плошчы арганізавана калгасаў пры Вашым непасредным удзеле . . . . . . . . . . .

**ЗГОДНА ЗЬМЕШЧАНЫХ ВЫНІКАЎ—**

рабачкомы, сельрабачкомы. а таксама кіраўнікі саўгасаў лясьнічыя і загадчыкі партый (лесаўпарадкоўчых, землеўпарадкоўчых і райаграномы) павінны прадставіць у ЦП Саюзу праз акраддзяленьні саюзу да 1-га лістапада 1929 г. паведамленьня па сутнасьці вышэйазначаных 16-ці пытаньням, выходзячы з умоў сваей працы.

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў.**
Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2652. Тыраж 1200 экз. Друкарня Менспраўдома.